кой аружнай сілы, якая магла-бы служыць для захватных плянаў, тым болей, што такіх плянаў у нас нямашака і быць ня можа.

Ні для каго не сакрэт, што на Доне, на Кубані, у Сібіры. на Украіне, дый на поўначы Расеі староннікі павароту ў Расеі старога ладу і самадзяржавія за чужаземныя грошы арганізавалі дабравольчаскія арміі, назначаныя для барацьбы з большэвікамі і узвядзеньня «белага цара» на маскоўскі пасад „пры звоне ўсіх сарака саракоў Масквы“. Калі мы прыгледзімся да карты Расеі, дык убачым, што ўсе гэныя процібольшэвіцкія арміі абхопліваюць Расею навакол, і толькі з аднаго боку гэнае кола разрываецца: у Беларусі і Літве. Рэвалюцыя Петлюры на Украіне яшчэ пашырыла той прарыў.—Вось, тыя, хто хацеў-бы выкарыстаць сілы нашага народу дзеля ачышчэньня Расеі ад большэвікоў, ужо даўно стараюцца нашу працу дзеля арганізацыі дэмакратычнай арміі, як апоры новага ладу і абароны здабыткаў рэвалюцыі, павясьці ў другі бок: пакіраваць на тварэньне **белай гвардыі**. Калі паслы ад Беларускай Народнай Рэспублікі былі зьвярнуліся да Украінскага Ураду ў часе панаваньня гэтманшчыны. дык ім даволі выразна было сказана, што на помач грашмі і аружжам яны могуць спадзявацца толькі тады, калі беларускае войска пойдзе пад каманду Скоропадскіх і Денікіных. Ведама, Беларускі Урад на гэта ня прыстаў: так сама. як і Украінскі Нацыянальны Саюз, Беларускі Урад прызнаў немагчымым мяшацца ў унутраныя справы Расеі і крывёй сыноў Беларусі заваёвываць трон маскоўскаму цару.

На падобным становішчы стаіць і ладжаная ў Вільні беларуска-літоўская армія. На агульным сходзе працаўнікоў упраўленьня народнае абароны з учасьцем каманднага складу беларускіх і літоўскіх палкоў 16 сьнежня сёл. г. было пастаноўлена, што ў гэтай арміі павінны быць адкінуты ўсе перажыткі клясовасьці і мілітарызму, што прынцып дэмакратызму павінен быць праведзен у поўнай меры, што наш народ ня мае ніякіх ваяўнічых мэт і ні з кім ваяваць ня зьбіраецца, ды што армія арганізуецца толькі з аднэй мэтай: бараніць волю і незалежнасьць свайго народу і краю.

Можна толькі шчыра прывітаць гэту рэзалюцыю: яна паказавае што дзяржаўна-творчыя краёвыя элемэнты здалелі цьвёрда стануць на становішчы поўнай незалежнасьці свaей Бацькаўшчыны і ня пойдуць на аброць да тых, хто чужымі рукамі хацеў-бы выцягіваць з агню пячоныя каштаны для... маскоўскага царызму.

Беларускі афіцэр
Жэмла.

# Туман разьвеваецца.

Многа ў нас такіх людзей, што хоць з народу нашага выйшлі, хоць іх дзяды, прадзеды і прапрадзеды жылі на нашай зямлі і нашай роднай мовай беларускай гаварылі, аднак, цяпер апалячыліся, пачалі ўжываць польскай мовы, хоць і ламаючы яе на беларускі лад, і называюць сябе палякамі.

Звычайна гэта мы бачылі толькі па мястох, — толькі ў *горадзе* адбывалася гэная пераробка беларускіх сялян на палякоў. Цяпер польская работа дайшла і да нашай *вёскі*: і тут, дзякуючы працы польскіх паноў і ксяндзоў-нацыяналістаў, бачым тую-ж хваравітую праяву — адрачэньне нашых сярмяжнікаў ад усяго роднага, падчыненьне палякам, варожыя адносіны да беларускай мовы і г. п.

Аднак, такія ўдачы польскай палітыкі былі магчымы толькі датуль, пакуль дэнацыяналізаваныя сяляне ня мелі ня толькі нацыянальнай, але і грамадзкай сьвядомасьці, пакуль пан і ксёндз былі для іх найвышэйшай уласьцю на зямлі. Цяпер гэта мінаецца: ад панска-ксяндзоўскай павагі скора сьледу не астанецца, бо шырокія масы працоўнага народу ўрэшце зразумелі, што яны — гаспадары на сваёй зямлі, што іншае ўласьці, як народу, няма і быць ня можа. А разам з тым людзі, ужо перакручаныя на панскіх прыслужнікаў і на ворагаў беларускай справы, пачынаюць разумець, якое страшэнства з імі сталося, якую крыўду зрабілі польскія паны і ім, і ўсяму народу беларускаму.

І ў душах гэных *робленых* «палякоў» будзіцца сумленьне, а разам з гэтым іх зьнімае зьдзіўленьне: чаму гэта сталося? Чаму «мужык», каторы толькі гамоніць па польску», мае быць ворагам беларусаў, калі ён «любіць сваю родную старонку і прагнець ей спакою і шчасьця»?

На гэткую тэму праслаў у Рэдакцыю «Гомана» пісьмо адзін з такіх абаламучаных палякамі нашых сялян, які называе сябе паляком. З кожнага радка, з кожнага сказу, якія мы тут прыводзілі ў чужаслове, відаць, што робіцца ў душы чалавека, якому разам расчыніліся вочы. Але найбольш ярка выліваецца настрой душы яго ў вершах, пісаных ім па беларуску:

Ты беларус, а я паляк;
Ці-ж згодна жыць ўжо нам ня можна?
Ці заўсягды ўжо будзе так,
Што кожын ненавідзіць кожна'?
Ці вінават я, што магнат
Пакрыўдзіў слабшыя народы?
Ен наш тыран, ён нам ня брат!
Ці ўжо між нас ня будзе згоды?
Ня знаю гутаркі тваей,
Хоць ты сусед, хоць ты мой брат.
Дасюль жалець цябе ня сьмеў:
Я жыў, як мне сказаў магнат!
Табе маскоўскі даўшы знак,
Расейскі чын вучыў таго,
Што ворагам табе паляк,—
І ты паслухаўся яго.
Цапер маскоўскі кнут бяз сілы,
Са страху абамлеў магнат,—
Дык ля варожай тэй магілы
Падай руку тваю мне, брат!
Яшчэ нам многа трэба сілы,
Каб заарaць свой родны кус.
Падай-ж руку ля тэй магілы
І брат літвін, і беларус!

Мы ня можам, ня маем права ня верыць у шчырасць і пісьма, і вершаў. І ў гэтым мы бачым першую праяву таго, што рассяваецца ўжо той туман, які пускаюць польскія паны і польскія ксяндзы ў вочы нашаму народу, каб падзяліўшы яго на часьці, пасварыўшы брата з братам, разьбіць і аслабіць сілы народныя і завясьці нам новую паншчыну — горшую за старую, бо і эканамічную, і духовую.

А. Н.

# Сустрэча з Петлюрай.

Гэта было так яшчэ нядаўна ў першыя дні вялікай расейскай рэвалюцыі—дні вялікіх надзеяў для ўсіх грамадзян і народаў б. Расейскай Імпэрыі. У далёкім ад цэнтру рэвалюцыі м. Менску 6 сакавіка (марца) 1917 г. сьвяткавалі вялікі дзень свабоды, дзеля чаго была арганізавана дэманстрацыя, у якой прыняў учасьце ня толькі Менск у асобе сваіх палітычных, прафэсыянальных і нацыянальных арганізацый, але, можна нават сказаць, што і ўвесь Заходні фронт, цэнтрам якога у той час быў Менск.

Мы, беларусы, якія гуртаваліся тады каля „Беларускага Камітэту помачы пацярпеўшым ад вайны“, так сама выступілі нэвялічкім (каля 50 асоб) гуртком з белым штандарам, на якім красаваўся чырвонымі літарамі намаляваны надпіс—крык нашых надзеяў і жаданьняў: „Жыве Беларусь“.

Нават у такія ясныя і пагодныя дні сьцюдзена стрэў выступленьне загнаных беларусаў радасны Менск—Беларускі.

Сумна гэта было для нас!..

Але якой-жа радасьцю напоўніліся сэрцы дэмонстрантаў—беларусаў, калі пасьля ўсякіх арганізацыяў, моўчкі прайшоўшых і ня вітаўшых праўдзівых гаспадароў краю—беларусаў,—стала праходзіць шырокімі радамі, моцна пабраўшыся і дзяржучыся адзін за аднаго пад руку, вялікая калонна (больш за 500 чал.) вайсковых украінцаў. Першы рад гэтай моцна зьвязанай калонны трохі задзяржаўся перад маленькай кучкай беларусаў, і чалавек (які быў у цэнтры першага раду калонны) у цывільным убраўшыся досіць нізкога росту з энэргічным адкрытым тварам — голасна крыкнуў: „Нэхай живэ Вільна Білорусь!“

У адказ на гэта з боку беларусаў пачулася: „Хай жыве вольная Украіна!“—„Слава“ украінцаў і „гура!“ беларусаў зьмяшаліся ў адзін радасны магутны зык, які заглушыў навакол усё...

Чалавек у цывільным, выкрыкнуўшы прывет вольнай Беларусі,—быў Петлюра...

Чытаючы цяпер апошнія весткі аб пабедах на Украіне невялікай группы „петлюраўцаў“, я мімаволі ўспамінаю сваю першую сустрэчу з Петлюрай ў дні сьвяты свабоды 6 сакавіка, калі ён ужо і тады йшоў на чале моцна зьвязанай агульнай верай у лепшую будучыну калонны вайсковых украінцаў.

Л. З.

Вільня 20.XII. 18.

# Беларускі сялянскі зьезд у Горадне.

На Зьезд у Горадна, склікaны на 15 сьнежня, сабралося каля 60 правамочных дэлегатаў—блізка што з аднаго Горадзенскага павету. Гэты павет быў зусім добра прадстаўлены; можна лічыць, што ўсе валасьці прыслалі сваіх прадстаўнікоў. З іншых паветаў было па 1—2 дэлегаты, але за тое ўжо не ад валасьцей, але ад паветавых сялянскіх Беларускіх Рад, якія ўжо шмат дзе ў Горадзеншчыне пазакладаны.

Зьезд прызнаў сябе правамочным паветавым зьездам. Аднак у першы чырод ён пастанавіў аб канечнай патрэбе склікаць вялікі з усяе Горадзеншчыны — беларускі сялянскі зьезд Гэты зьезд назначаны на 9 студня (анвара) 1919 г., для яго падгатоўкі і склікaньня выбраны спэцыяльны Організацыйны

---

# Даўка.

— Ну, Марцін, дык ты ўжо прыехаў вясьці да хворага? Хто-ж у цябе захварэў?—пытаўся пробашч.

— Але-ж дык сын, адразу зусім змарнеў і Бог ведае, ці падыймецца, — стагнаў Марцін.

— Ці Янук?

— Няўжо ж, войчаньку,—Янук. Перад нядзеляй у суботу гараў, потым узяў ды захварэў: спухла шыя, мала зразумець, што гаворыць, як есьць—ня можа глытаць. Кажуць—даўка яго схапіла. Перш не вяльмі яшчэ быў слабы: пасядзеў, па хаце пахадзіў, але цяпер зусім ужо падаўся.

— А дохтара ці прывазілі? — пытаўся ксёндз выбіраючыся да хворага.

— Куды там вазіць, — у мястэчка 20 вёрст, паедзь, прывязі, адвязі...—ні «кала, ні двара»—ні каня, ні ваза. Лячылі дык мы самі сваймі лекамі. Калі трэба ачуняць—будзе здароў, калі трэба паміраць,—памрэ, тут і дохтар не паможа!

— Ну і памаглі свае лекі?

— Не, войчаньку, не памаглі! Спярша мы парылі шыю, зрабілася быццам ляпей, але пасьля...

— Што зрабілася пасьля?

— Прыйшла неякаясьці, як тут сказаць—баба і заначавала ў нас—казала, ногі падбіўшы, ня можа падыйсьці; як гэтая бабка гаворыць, то здаецца быццам усё ведае, усюды была, і пабожная-ж надта кабетка—ўсё ружанец дзяржыць, усё пацяры гаворыць. Як толькі зіркнула на хворага, зараз гэтая бабка і кажа: „Тут—даўка, ды тая, што найнягоднейшая. Яе цяжка вылячыць, але калі хочаце, я яе выганю“. Мы кажам: „Толькі ты выганяй, можаш быць яшчэ дзень—другі, толькі вылячы“.

Пробашч зараз скеміў, што гэта „дохтарка“ ўвагнала хвораму яго цяжкую хваробу. Ен хутка апрануўся і паехаў.

Пробашч Марціна і яго сына Янука добра знаў. Марцін меў каля 50 гадоў. Ен быў здаровы і сумленны чалавек. Адна бяда, што ён кожнаму верыў. Хай толькі хто гладка скажаць, Марцін ня толькі што сам паверыць, але і другім нябыліцы будзець ўмаўляць. Марціна сын Янук быў вясёлы, чырвоны і добры хлапец. Ен меў 20 гадоў.

Пробашч увайшоў у цёмную хату, гдзе сьмярдзела кажушынамі, макрынёю. На стале стаяла ў лямпачку перарobленая чарніліца, каторая сьвяціла так, як воўчае вока. У хаце было сабраўшыся колькі баб і мужыкоў, каторыя чакалі пробашча. Цяжка было дыхаць. Хворы ляжаў у куце на лаве, абкіданы кажухамі і армякамі. Яго твар быў вяльмі бляды, язык пачарнеўшы.

Па споведзі пробашч яшчэ раз пачаў пытацца, што Януку зрабілася і як яго лячылі.

— Усяляк, войчаньку, лячылі, толькі нічога не памагло — даўка што раз гарэй шалела. Упярод мы самі лячылі і было быццам лягей, але пасьля ўзялася лячыць бабулька. Яна ўзялася хваробу зараз выгнаць і казала выстраліць каля вуха з стрэльбы, каб даўка спалохалася і ўцякла.

— Ну і стралялі?

— Стралялі, але даўка не спалохалася. Пасьля бабуля ўзяла мукі, зьляпіла такога чалавечка, сьпякла і паставіла каля хворага, кажучы, што хвароба з Янука ўвойдзе да гэтага балванчыка. Але даўка ня вышла. Наканец бабка кажаць: «Я маю яшчэ лекаў. Калісьці, як я была ў Шыдлове, разбалеліся мне зубы, дык адна пабожная дзяўчына дала лекаў. Як палажыла я гэтых лекаў, то аж у вушох сьвіснула і быццам рукой адняло». Пасьля кабетка загадала прынясьці вядро вады, пачарпнула кубачак, перахрысьціла, наліла гэтых лекаў—вада аж закіпела, і дала хвораму. Як хворы выпіў, то даўка ня то, што не перастала, але пачала яго трэсьці і ад таго часу хворы зусім аслаб і...

Пробашч панаракаў на Марціновых і на „дохтарку“, прыехаў дамоў і зараз даведаўся, што Янук памёр...

З літоўскага пераклаў **Бронюсь.**

